# МАЛАДЫ АРАТЫ

ЧАСОПІСЬ СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ

Орган ЦКЛКСМБ






№ 12 • 1925 г.

На дапамогу закардоньнікам.



# ЦК Комуністычнага Саюзу Моладзі Беларусі.

**Дарагія таварышы!**

Мы зварочваемся да вас з гарачым заклікам узьняць і ваш голас протэсту проці тых зьверскіх катаваньняў і вялікіх зьдзекаў, якія зараз церпіць рабочая і сялянская моладзь у Заходняй Беларусі.

З кожным днём усё больш узрастаючы рэволюцыйны рух на „крэсах“ даводзіць да вар‘яцтва польскіх окупантаў. Буржуазія рашыла ня спыняцца ні перад якімі сродкамі, каб зьнішчыць, задушыць „бальшавіцкую заразу“. І дэфэнзыва ўзялася за работу. Расправа, якая зараз праводзіцца ў Заходняй Беларусі, ня мае падобных да сябе ў Польшчы. Яе можна параўнаць хіба тольki з тою, якая адбываецца ў Баўгарыі.

Тэатрам дзейнасьці дэфэнзывы зьяўляецца зараз Беластоцкая акруга. Вось ужо цэлы месяц, як поліцыя робіць пагромы ў адным за другім раёнах, арыштоўваючы ня толькі комуністых і комсамольцаў, але і сотні беспартыйнае моладзі. Поліцыя пабаялася трымаць усіх арыштаваных у такім вялікім рабочым горадзе, як Беласток. І цэнтральным засьценкам, сваяабразным концэнтрацыйным лягерам для іх, поліцыя выбрала маленькі гарадок Бельск. Кожны дзень з Беластоку, Заблудава, Сьвіслачы, Міхалёва, Супрасьлі і дзесятку іншых гарадоў, мястэчак і вёсак прывозяць у Бельск усё новых і новых партыі змучаных арыштаваных.

У Бельску зараз ужо ёсьць каля 600-700 арыштаваных. Імі запоўнены ня толькі вастрог, але і шпіталь, адведзены пад вастрог, і яшчэ нейкія баракі. Да арыштованых нікога ня ўпушчаюць, ня прымаюць для іх харчоў. Жыхары Бельску апавядаюць, што ўвесь горад забыў ужо пра сон: страшэнныя, разрываючыя душу крыкі і стогны арыштаваных, даходзячыя з баракаў дзень і ноч, не даюць спаць ня толькі рабочым, але і тоўстаскурым мястачковым буржуям.

Дэфэнзыва хоча выліць усе сваё зьверства на арыштаваных, і вось няма канца ўсё новым і новым спосабам зьдзеку, новым спосабам катаваньня. Усіх арыштаваных б‘юць кулакамі, палкамі, бізунамі, прыкладамі, ботамі, сякуць розгамі, пякуць у голыя пяты напаленым жалезам, цягаючы па зямлі за валасы, вырываюць іх, загандяюць іголкі пад ногці, ломяць пальцы, заклаўшы іх між дзьвярмі, устаўляюць між пальцамі палачкі і потым сьціскаюць руку. Праз нос ліюць па 7 бутэлек вады, у горла ліюць гарачую салоную ваду, прывязваюць ногі да галавы і потым б‘юць па пятах палкаю і г. д. і г. д., але ўсё гэта тускнее перад абразком нячуванага зьверства і садызму, калі які-небудзь камісар дэфэнзывы ў час дазнаньня і катаваньня спакойна курыць цыгарку і гэтай-жа цыгаркай пячэ губы дапрашваемага комсамольца. Звычайна праз гадзіну або паўтары такога катаваньня нават самы моцны чалавек, ня тольki малады, губляе сьвядомасьць, але на гэтым катаваньне не канчаецца. Страціўшага сьвядомасьць арыштаванага абліваюць вадою і зноў б‘юць, ломяць пальцы да новага обмарку.

Таварышы! наш комсамол ня ведаў легальных умоў.

Мы вырасьлі сярод прыгону, арыштаў і вобыскаў. У вастрогах і вучастках дэфэнзывы мы сталі загартаванымі, неўстрашымымі комсамольцамі. Мы да ўсяго ўжо прывыклі. Мы бачылі пабоі і катаваньне. Але тое, што робіцца зараз у Бельску, прымушае дрыжэць і нас. Мы яшчэ з большаю энергіяю, яшчэ з большым запалам праводзім нашу работу, адбудоўваем зруйнаваныя дэфэнзываю раёны. А рабоча-сялянская моладзь, якая ня спужалася, але яшчэ больш зьненавідзела зьвераўкатаў, польскіх окупантаў, яшчэ шчыльней аб‘ядналася вакол комсамолу.

У нас няма легальна друку, няма магчымасьці нават гаварыць легальна. Мы ня можам нават протэставаць проці зьверстваў і гвалтаў над намі.

**Нашым протэстам, нашым адказам будзе наша праца.**

Але мы маем вас—нашых вольных братоў—комсамол Савецкай Беларусі, абаронцу прыгнечаных рабоча-сялянскіх мас усіх краёў.

Мы зварочваемся да вас з нашым крыкам незнасімае болі. Вочы ўсіх 700 катуемых мучанікаў з Бельску зьвернены на вольную Савецкую Беларусь.

Таварышы! Узьнімеце ваш голас протэсту проці мук і гвалтаў над вашымі прыгнечанымі братамі—моладзьдзю Заходняе Беларусі. Закляйміце ганьбаю нашых мучыцеляў—польскіх окупантаў. Раскажыце ўсёй рабоча-сялянскай моладзі вольнае Беларусі аб змаганьні і муках іх заходніх братоў. Няхай вольная працоўная моладзь протэстуе проці зьверскае расправы з рэволюцыйнаю моладзьдзю ў „вольнай, дэмократычнай, непадлеглай Польшчы“. Няхай працоўная бальшавіцкая моладзь усімі сіламі дапамагае Мопр‘у—гэтаму адзінаму нашаму вернаму брату і самаахвярнаму памочніку ў цяжкай без канца барацьбе.

Таварышы! Ведайце, што ад вас залежыць шмат. Вашы гарачыя протэсты проці сьмертнае кары т.т. Ботвіна, Гібнэра, Рутковскага і Кнієўскага зрабілі сваю справу. Яны прымусілі загаварыць аб гэтым „грамадзкую думку“ дэмократычнае Эўропы, і зараз выказчыкі гэтае грамадзкае думкі—эўропэйскія соцыялістыя—адкрыта заяўляюць, што Польшча пашкодзіла сабе гэтымі чатырма расстрэламі. Вашы протэсты, якія перанесьліся ў Эўропу, прымусілі нават запрадаўшых сябе буржуазеі пэпээсаўцаў, хоць і фальшыва і з ленью, хоць і пасьля растрэлу, але ўсё-ж протэставаць: „Прэч сьмертныя кары“.

Дык заявіце-ж Эўропе аб нячуваным новым зьдзеку над 700-мі рабочых і сялян у Бельску. Там праводзіцца найвышэйшая несправядлівасьць. Там без „doraznych“ (надзвычайных) судоў на сьмерць забіваюць людзей. Кожны дзень вывозяць 8-10 напалову памершых вязьняў.

Верым у вашую дапамогу, спадзяемся на братні водгук.

З комуністычным прывітаньнем.

**Цэнтральны Комітэт Комуністычнага Саюзу Моладзі Заходняе Беларусі.**

Вільня. Верасень 1925 г.

Ленінскі Комуністычны Саюз Моладзі Беларусі.

# МАЛАДЫ АРАТЫ

Орган ЦК ЛКСМБ.
Двухтыднёвая часопісь Сялянскай Моладзі.

№ 12 | Верасень 1925 г. | Менск



## Да ўсяе працоўнае моладзі БССР!

Яшчэ не заціхлі грукаты страляніны азьвярэўшых польскіх паноў у т. т. Ботвіна, Гібнэра, Кніеўскага і Руткоўскага, як сягоньня мы сталі зноў перад здарэньнем нячутных ніколі ў гісторыі чалавецтва злачынстваў польскіх паноў.

Усё нарастаючы рэволюцыйны рух працоўных Заходняй Беларусі і Польшчы польскі ўрад задумаў пыткамі і зьдзекамі сярэдняковай інквізыцыі і забойствамі задушыць.

**Зараз у Заходняй Беларусі па згодзе польскага ўраду пануюць гвалты белага тэрору. Там, недалёка ад нас, чутны крыкі і енкі арыштаваных польскай дэфэнзывай, якія разрываюць душу вольнага люду Савецкай Беларусі.**

Да нас зьвяртаюцца з енкам нявыноснай болі мучанікі-рэволюцыянэры. Там яны —лепшыя прадстаўнікі працоўных—ахвяраваны на верную сьмерць, там кінуты ў лапы сьмерці бацькі і дзеці арыштаваных.

Здань жудаснай сьмерці носіцца над польскай краінай.

**Таварышы!** Дык пакажам-жа яшчэ раз на ўвесь сьвет наша вялікае абурэньне, наш шчыры протэст проціў зьдзекаў белага тэрору і зьверстваў польскага ўраду.

Заклеймім яшчэ раз нязмытай ганьбай польскі ўрад, які імкнецца затрымацца на забойствах і зьдзеках.

Мы пасылаем сваё шчырае прывітаньне мучанікам рэволюцыі.

На гэты белы тэрор адкажам дружным аб'яднаньнем усёй працоўнай моладзі пад сьцягам комсамолу і партыі.

Працягнем-жа, таварышы, нашым закардонным братом руку комуністычнай дапамогі. Організуем-жа фонд дапамогі комсамолу Заходняй Беларусі і Польшчы. Усе на мітынгі протэсту! Няхай гэты факт увойдзе на вялікія чырвоныя старонкі гісторыі гэроічнай барацьбы.

**НЯХАЙ ЖЫВЕ АВАНГАРД ПРАЦОЎНЫХ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ І ПОЛЬШЧЫ— КОМПАРТЫЯ І КОМСАМОЛ!**

**НЯХАЙ ЖЫВЕ ШТАБ УСЯСЬВЕТНАГА РЭВОЛЮЦЫЙНАГА РУХУ—КІМ!**

**НЯХАЙ ЖЫВЕ СУСЬВЕТНАЯ СОЦЫЯЛЬНАЯ РЭВОЛЮЦЫЯ!**

**Цэнтральны Комітэт ЛКСМБ.**



# Комсамол і МОПР.

Амаль што нікому ня трэба даказваць цяпер каштоўнасьць дзелавой практычнай сувязі організацыі Комсамолу з Міжнароднай Організацыяй Дапамогі Барацьбітом Рэволюцыі. Для МОПР'у пытаньне аб удзеле Комсамолу ў працы організацыі МОПР'у—гэта пытаньне аб абхваце мільённых мас рабочай і сялянскай моладзі. Для ЛКСМБ правідловая пастаноўка працы комсамольцаў у МОПР'ы—гэта пытаньне аб інтэрнацыянальным выхаваньні моладзі і аб адным з лепшых сродкаў уцягненьня шырокіх колаў пролетарскага маладняка ў свой саюз. Карысьць ад актыўнага заўзятага супрацоўніцтва—вялізная і ўзаемная як для МОПР'у, так і для Комсамолу.



Турма „Моабіт“ у Нямеччыне.

Але, аднак, да гэтага часу зроблена вельмі мала ў гэтым напрамку. Ні МОПР, ні Комсамол ня выкарысталі яшчэ ў патрэбным ліку багатых магчымасьцяй сумеснае працы. Цеснага супрацоўніцтва організацый МОПР'у і ЛКСМБ яшчэ няма.

Між тым пара ўжо перайсьці ад слоў да справы. Комсамол павінен пабудаваць навокал МОПР'у ўсю сваю працу па інтэрнацыянальным выхаваньні моладзі. МОПР—шырокая масавая організацыя працоўных, якая ставіць сабе заданьнем матар'яльнае й моральнае падтрыманьне барацьбітоў рэволюцыі, якія марнуюцца ў руках буржуазных катаў,—павінен паслужыць Комсамолу асноўным настаўнікам інтэрнацыянальнага выхаваньня. Удзел у МОПР'ы ставіць комсамольца тварам да твару з рэволюцыйна-гэроічнай барацьбой заходніх рабочых і зьверскаю лютасьцю буржуазіі — з самаахвярнасьцю адных і подласьцю другіх. МОПР знаёміць з становішчам сусьветнага рабочага руху, бязьлітасна выяўляе так званыя „дэмократычныя“ ўрады і непасрэдна паказвае сваім членам увесь жах капіталістычных засьценкаў, у якіх гінуць гэроі рэволюцыі. Усё гэта стварае магутны стымул да вывучэньня клясавае барацьбы на захадзе, да чытаньня газэт, да разуменьня пэўных інтэрнацыянальных задач і да зьвязваньня свае нізавой работы з пэрспэктывамі сусьветнае рэволюцыі.

У горадзе вытворчыя ячэйкі ЛКСМБ павінны ў большай ступені, як гэта рабілася да гэтага часу, выкарыстаць МОПР для працы з ленінскім прызывам Комсамолу. Перараджэньне ленінскага наваббранца з беспартыйнага ў комсамольца неадлучна ад інтэрнацыянальнага выхаваньня і ад уцягваньня маладога члена ў практычную грамадзкую працу. Тут-то якраз МОПР'у—пашана і месца. Умела паставіўшы работу ў ячэйцы МОПР, комсамольская ячэйка зможа хутка апрацаваць ленінскі прызыў. Пры сучасным становішчы, калі ўва многіх ячэйках Комсамолу ленінцаў больш, чым „старых“, гэта—задача першараднага значэньня.

З другога боку і МОПР павінен выкарыстаць Комсамол для ўцягненьня ў свае організацыі шырокіх колаў моладзі. Комсамол зможа даць вялізную дапамогу МОПР'у ў справе распаўсюджваньня яго ідэй у самых шырокіх пролетарскіх колах. Апрача гэтага, Комсамол можа значна ажывіць работу ячэек МОПР—шляхам увядзеньня мэтодаў масавай агітацыі й пропаганды і масавага дзеяньня. Комсамольскія каляды, вялікдзень, а таксама шматлікавыя „вечары“, „дні“ і „тыдні“,

якія праводзіліся Комсамолам, досыць узмацнілі яго вопыт.

Асабліва вялікае значэньне мае ўстанова жывой сувязі МОПР'у з Комсамолам для работы абедзьвюх організацый на вёсцы. Комсамольцы павінны выступіць піонэрамі МОПР'у ў нашых сялянскіх раёнах. Моладзь—найбольш актыўная частка сялянства; і ня можа быць сумленьня ў тым, што ідэі МОПР'у заваююць сабе самую шырокую популярнасьць. Апіраючыся на сялянскія організацыі Комсамолу, МОПР хутка зможа пашырыць сваю працу на вёсцы й сярод дарослых.

Вясковыя організацыі Комсамолу павінны выкарыстаць МОПР ня толькі як адпраўны пункт дзеля працы па інтэрнацыянальным выхаваньні, але і як форму ўцягненьня беспартыйнай сялянскай моладзі ў свой саюз. Калі работу ячэйкі МОПР паставіць жвава й цікава, выкарыстаць пры гэтым мясцовыя культурныя сілы, то ў МОПР шырока ўвальлецца беспартыйная моладзь, у якой ужо моцны культурныя і грамадзкія запатрабаваньні, але якія яшчэ баяцца ўліцца ў Комсамол. А ад працы ў ячэйцы МОПР толькі адзін крок да працы ў Комсамоле. Заданьне комсамольскай ячэйкі на вёсцы—зрабіць МОПР ступенькай у ЛКСМБ і праз МОПР уцягнуць к сабе ў саюз магчыма больш беспартыйнай сялянскай моладзі. У працы ячэйкі МОПР на вёсцы прымаюць удзел: Комсамол і партыя, беспартыйная сялянская моладзь і дарослыя сяляне і, урэшце, вясковая інтэлігэнцыя. Гэтая акалічнасьць ускладняе кіраўніцтва ячэйкай, але-ж яно абяцае непамерна багатыя магчымасьці на шляху організацыі савецкай грамадзкасьці ў нашай вёсцы. Комсамольскай ячэйцы патрэбна толькі ўмела выкарыстаць гэтую акалічнасьць. У прыватнасьці, тую частку вясковае інтэлігэнцыі, якая па якіх-небудзь прычынах да гэтага часу яшчэ не працавала разам з Комсамолам, ячэйка ЛКСМБ праз МОПР можа лёгка ўцягнуць у сваю працу.

За апошнія часы як у горадзе, так і на вёсцы комсамольцы ўжо сур'ёзна пачынаюць брацца за работу ў МОПР'ы. Трэба гэтаму дапамагчы, каб сама праца пашла шпаркім тэмпам уперад. **Ніводнага комсамольца ня ў шэрагах МОПР'у**—такі наш лёзунг.

---

# Протэст працоўнай моладзі гор. Менску.

На імя ЦК Ленінскага Комсамолу Савецкая Беларусь 18 верасьня атрымала ліст ад Комсамолу Заходняй Беларусі. У гэтым лісьце—поўна новых гвалтаў і зьдзекаў польскіх паноў над працоўным сялянствам і іх дзецьмі. 700 арыштаваных і закінутых за краты Бельскай турмы, у цёмныя падвалы і паграбы камяніц, яскрава нам сьведчаць аб гэтым.

Арыштаваным пякуць нагрэтым да бяла жалезам пяты, льлюць праз нос ваду—гэта зьдзекі, якіх ня ведала да сучасных дзён чалавецтва.

Пачуўшы енкі сваіх гаротнікаў-братоў, яшчэ часьцей забілася сэрца працоўнай моладзі Менску, яшчэ больш запалала яно помстаю да панскай Польшчы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Кожны чакаў сямі гадзін. Ды як-жа не чакаць? —У сем гадзін комсамолія Менску протэстуе супроць нячуванага разгулу панскага бізуна.

Яшчэ сонца не схавалася ад людзкога вока, яно як-бы прыўнялося там, на захадзе, там, дзе аковы зьвіняць, і апавядае тое, што выглядзела ў СССР, а стройнымі шэрагамі, з сьцягамі і плякатамі ў руках комсамольскія ячэйкі вышлі на вуліцы Менску...

Ужо і сьцямнела. Дэмонстрацыя асьвятляецца соткаю факелаў. Падыходзім пад ЦК ЛКСМБ. Сьпевы супыніліся...

— Няхай жыве Цэнтральны Комітэт Ленінскага Комсамолу Беларусі—кіраўнік шматтысячнай арміі, якая гатова ісьці ў пабедную бойку з капіталам і ўціскам! Ура!

— Ур-р-ра!—тысяча маладых галасоў падтрымала выклік сакратара аднэй комсамольскай ячэйкі.

Крыху назад—чутны другія галасы, другія пажаданьні і праклёны...

Гадзін у 10 вечара ячэйкі сталі разыходзіцца з дэмонстрацыі. Моладзь ішла да хаты з помстаю да паноў-катаў і з гарачым спачуваньнем вязьням польскіх турам.

**Паваротны.**

---

**Наша задача, задача ўсяго міжнароднага пролетарыяту і працоўнасялянскай моладзі—дапамагчы вязьням белапольскіх турам.**

# Праца Беларускага Комітэту МОПР.

**(Згодна матэрыялу ЦК).**

На адбыўшайся ў мінулым годзе 17 мая Ўсебеларускай конфэрэнцыі МОПР быў абраны Беларускі Выканаўчы Комітэт МОПР'у, у склад якога ўвашло 9 членаў і 5 кандыдатаў. Гэтаму комітэту конфэрэнцыя дала такія заданьні: стварэньне акруговых і раённых Комітэтаў, а таксама нізавых ячэек МОПР, організацыя рэвізыйных комісій, даць належны кірунак у іх працы. Побач з гэтымі заданьнямі конфэрэнцыя даручыла комітэту зьвярнуць асаблівую ўвагу на выхаваўчы бок як сярод кошт вёскі. Да гэтае нарады (верасень мінулага году) беларуская організацыя МОПР налічвала ў сваіх шэрагах 71319 асоб, якія працавалі ў 678 ячэйках. З іх рабочых ячэек было 186 з лікам сяброў 26678, а сялянскіх 141 яч. і сяброў 9845, а ўсе іншыя ячэйкі былі—служачых, вайсковых і г. д.

Дзеля кіраваньня працаю і для жывой сувязі комітэтаў былі назначаны інструктар. Пры абсьледаваньні акруговых комітэтаў выявілася слабае кіраваньне з боку акруговых комітэтаў ячэйкамі,



Працоўныя Менску на дэмонстрацыі протэсту супроць гвалтаў у Заходний Беларусі.

сяброў організацыі, так і наогул сярод працоўнай масы, а таксама наладзіць належныя ўзаемаадносіны з партыйнымі і профсаюзнымі організацыямі. Вакол гэтых пытаньняў і гуртавалася праца Беларускага Выканкому МОПР.

Каб азнаёміцца з працаю і намеціць тыя шляхі працы, па якіх павінна ісьці організацыя, была склікана нарада старшыню акруговых комітэтаў. Нарада адзначыла вялікі рост організацыі і прыняла далейшы плян працы, які закранаў усе пытаньні, адзначаныя ў час практычнае працы. Разам з гэтым выплывала неабходнасьць замацаваньня організацыі ў горадзе і павялічэньне яе шэрагаў за бясплянавасьць у працы комітэтаў, слабая сувязь з КП(б)Б і г. д. Па некаторых пытаньнях інструктаром былі дадзены належныя ўказаньні ў працы комітэтаў.

Амаль што ва ўсіх акругах, для большага азнаямленьня з кіраваньнем ячэйкамі, скліказіся сходы сакратароў яч., на якіх рабіліся справаздачы таго ці іншага сакратара аб працы ячэйкі або ставілі пытаньне аб выпрацоўцы пляну працы і г. д.

Сувязь мопраўскіх організацый з партыйнымі была слабая. Гэта сувязь павінна была выяўляцца ў пастаноўцы дакладаў аб працы комітэтаў МОПР па партыйных комітэтах і г. д.

## Рост організацыі за апошні час.

З ніжэй надрукованых лічбаў мы бачым наступны рост нашай організацыі. Калі на першае мая 1924 году мы мелі 33615 сяброў, то зараз ужо налічваецца 148382 сябры, з якіх 19300 комсамольцаў. Але калі параўнаць некаторыя акругі, узяўшы тыя магчымасьці, пры якіх можа расьці організацыя, дык убачым, што некаторыя акругі не дашлі да таго мінімуму, на якім можна было-б застанавіцца для пачатку сур'ёзнае, сыстэматычнае выхаваўчае працы. Калі ўзяць для прыкладу Калінінскую і Слуцкую акругу, то ўбачым: хоць Слуцкая ў гаспадарчых адносінах і мацнейшая за Калінінскую, але яна на 1-ае жніўня мела менш сяброў МОПР.

Але наогул кажучы, рост організацыі ва ўсіх акругах ёсьць. Расла організацыя як у горадзе, так і на вёсцы. Заданьні і імкненьні МОПР'у закранулі сялянства. Калі да 1 мая 1924 г. мы зусім ня мелі ў сваіх шэрагах сялян, то зараз налічваем ужо з іх 26896 сяброў. Але гэты лік яшчэ малы, прымаючы пад увагу, што наша старонка пераважна сялянская. У далейшым трэба яшчэ больш абхапіць сялянства, і вясковыя комсамольскія ячэйкі павінны прыняць гэта пад увагу і дапамагчы ажыцьцявіць гэтыя імкненьні і, другое, замацаваць тыя мопраўскія ячэйкі, якія ўжо маюцца сярод сялян.

## Выхаваўчая праца.

Адною з галоўных задач мопраўскай організацыі зьяўляецца выхаваўчая праца. Гэтая праца толькі не ва ўсіх ячэйках выяўляецца ў організацыі мопраўскіх куткоў, у організацыі гурткоў па вывучэньні міжнароднага рэволюцыйнага руху, колектыўная чытка газэт і г. д. Амаль што ўва ўсіх ячэйках практыкавалася скліканьне сходаў, на якіх ставіліся даклады аб міжнародным становішчы, аб белым тэроры і аб становішчы і барацьбе рабочае клясы. Дзела гэтага выкарыстоўваліся політэмігранты, мопраўскі актыў, партыйцы і г. д. Гэтая праца ў большай сваёй частцы выконвалася толькі ў горадзе, і вось паўстала пытаньне аб перанясеньні гэтае працы на вёску. Для гэтага было прапанована выкарыстаць вясковы актыў: комсамольцаў, настаўнікаў, агрономаў і дэмобілізаваных чырвонаармейцаў. У вёсках пры хатах-чытальнях, нардамох пачалі організоўвацца куткі МОПР'у Адною з форм працы ў вёсцы зьяўляецца праца праз шэфкомісіі. Амаль што па ўсіх акругах рабіліся выезды на вёску шэфкомісій разам з мопраўскімі працаўнікамі, якія рабілі даклады аб рабочым руху, белым тэроры, становішчы сялян у Заходняй Беларусі і інш. Былі выпадкі, калі пасьля гэтых дакладаў і прамоў сяляне, якія паспрабавалі панскага бізуна, усёю вёскаю ўступалі ў сябры МОПР'у.

Усё-ж такі трэба сказаць, што выхаваўчая праца вялася ня зусім так, як належыць быць. Гэта выявілася ў недахваце належнага кіраўніцтва працаю і адсутнасьць форм і мэтодаў гэтае працы.

У далейшым неабходна ўзмацніць працу па організацыі чырвоных мопраўскіх куткоў, высьвятленьне працы МОПР'у ў насьценных газэтах, пэрыодычных выданьнях і ў мопраўскай літаратуры. Правесьці ў сыстэматычную плянавую працу правядзеньне чытак, гутарак у ячэйках.

## Грашовая дзейнасьць.

Разам з ростам організацыі расьлі і грашовыя прыбыткі. За ўсё існаваньне Беларускага Комітэту МОПР паступіла грошай 109700 р., з якіх больш як палову складаюць сяброўскія і ўступныя ўзносы (55782 р.) Другая частка гэтых грошай складаецца з выручкі ад спэктакляў, лекцый, кіно, ад продажы значкоў, марак і г. д. А што тычыцца організацыйных расходаў Бел. Комітэту, то яны складаюць усяго 5691 рубель, прычым большая частка з іх ідзе на прыгатаўленьне білетаў і справаздачных блянкаў.

## Шэфская праца.

Апрача грашовай дапамогі рэволюцыянэрам, якія сядзяць у буржуазных турмах, ня менш пажнаю працу зьяўляецца аказаньне й моральнае дапамогі. І вось толькі шэфства над вязьнямі буржуазных турам можа даць дадатныя вынікі ў гэтым.

Наша Беларуская організацыя, апрача Аршанскае акругі, трымае шэфства над рэволюцыянэрамі Беластоцкай турмы (Польшча). Аршанская акруга трымае шэфства над Гастрэліцкай турмою (Нямеччына). Перапіска паміж намі і гэтымі турмамі была не рэгулярнай. За ўвесь час было паслана 10 лістоў і 300 руб., як падарунак, якія былі сабраны ў час мопраўскага тыдню.

У далейшым неабходна шырэй пазнаёміць з ідэямі шэфства як сяброў ячэек МОПР, так і наогул працоўных і другое—гэта наладзіць рэгулярную перапіску.

## Політэміграцыя.

Політэмігранты, якія прыбылі к нам як шляхам абмену, так і тыя, што нелегальна перашлі на бок БССР, уцякаючы ад уціску белапольскага ката за рэволюцыйную дзейнасьць, абслугоўваліся ЦК па справах політэміграцыі, які знаходзіцца пры МОПР'ы. За апошні год праз аддзяленьне пры Беларускім Комітэце МОПР прашло 265 чалавек, з якіх 106 комуністых і 28 комсамольцаў. Усе гэтыя політэмігранты былі забясьпечаны як грашыма, так і адзеньнем.

Другая беларуская конфэрэнцыя МОПР адзначыла, што праца МОПР'у Беларусі за мінулы год пашырылася так, як ніколі. Каля 150000 сяброў МОПР па нашай Беларусі зьяўляюцца грунтоўным даказацельствам.

І. Г.



# Старыя і маладыя.

Міжнародная Організацыя Дапамогі Барацьбітом Рэволюцыі заснавалася сярод грамады быўшых політкатаржан і грамады старых бальшавікоў з тых сяброў, якія вынесьлі на сабе ўвесь цяжар царскай катаргі і сібірскіх пасяленьняў.

Ідэя міжнароднай дапамогі барацьбітом рэволюцыі знашла гарачы водгук якраз сярод найбольш энэргічных барацьбітоў за рэволюцыю—старых рэволюцыянэраў-падпольнікаў: сяброў па працы і вучняў У. І. Леніна.

Сапраўды, ці мог быць чужы расійскім старым рэволюцыянэрам лёс таварышоў, укінутых у капіталістычныя турмы, і жыцьцё якіх кожную хвіліну знаходзіцца пад уладаю буржуазных катаў? Колькі самых сяброў грамады быўшых політкатаржан знаходзілася на валаску ад сьмерці, а колькі раз яны перажывалі неспакой за лёс сваіх сем'яў, не спадзяючыся атрымаць якую-небудзь дапамогу.

Але гэта пакаленьне старых рэволюцыянэраў-падпольнікаў паступова адыходзіць у магілу. Іх працу вядзе далей рабочая і сялянская моладзь.

Моладзь нашага часу выхавана зусім у іншых умовах, чым адыходзячае пакаленьне старых рэволюцыянэраў-падпольнікаў. Яна не знаёма з умовамі барацьбы з царызмам і панамі, яна не знаёма ні з рэволюцыйнымі вытрымкамі, ні з шматгадовым турэмным заключэньнем; нарэшце, яна не набыла такога гарту і рэволюцыйнай палкасьці, якія штурхалі старых рэволюцыянэраў-падпольнікаў на гэроічныя выступленьні.

Між тым, восем год Савецкай улады, восем год барацьбы з расійскай і міжнароднай буржуазіяй зрабілі сваю справу: яны выхавалі моладзь у духу інтэрнацыяналізму, у духу разьвіцьця пролетарскай солідарнасьці. Побач з гэтымі ўмовамі ідэя МОПР зьяўляецца важнейшым фактарам выхаваньня рабоча-сялянскай моладзі ў духу ўмацаваньня міжнароднай солідарнасьці. Ідэі МОПР уцягваюць моладзь СССР ня толькі ў сілу таго рэволюцыйнага романтызму, які нясе ў сабе мінулае расійскага рэволюцыянэра-падпольніка, але і ў сілу таго пачуцьця міжнароднай солідарнасьці да агульнай справы моладзі, за якое аддалі сваё жыцьцё Энгель, Ботвін, Вечаркевіч, Фрыдман, Загорскі і іншыя і за якое мучаюцца тысячы лепшых барацьбітоў у капіталістычных турмах.

У організацыі МОПР налічваецца не адна сотня тысяч сяброў з моладзі.

З гэтай прычыны перад організацыяй МОПР у адносінах да выхаваньня моладзі павінны быць пастаўлены такія заданьні, якія-б дапамагалі:

1) вывучэньню задач і мэтодаў барацьбы старых рэволюцыянэраў-падпольнікаў з царызмам і буржуазіяй (гісторя РКП (б);

2) выпрацоўцы ў сабе тэй рэволюцыйнай палкасьці і волі да перамогі, каторыя штурхалі пакаленьні рэволюцыянэраў на бязьлітасную барацьбу з расійскай і міжнароднай буржуазіяй;

3) выхаваньню ў духу тых рэволюцыянэраў, якія марнеюць у капіталістычных турмах, вывучаючы ўмовы іх рэволюцыйнай барацьбы і гісторыю рэволюцыйнага руху;

4) азнаямленьню з рэволюцыйна-вызваленчай барацьбою ў коленіях і на ўсходзе і ў капіталістычных старонках.

Гэтыя задачы можна выпаўніць ня толькі шляхам утварэньня мопраўскіх гурткоў з моладзі, ня толькі шляхам занясеньня ў програмы комсамольскіх гурткоў некалькіх гадзін МОПР, але і шляхам організацыі аднае гадзіны ў тыдзень, ахвярованай тлумачэньню ідэй МОПР ва ўсіх школах.

Нашай моладзі не пажадана ідэя ура-нацыяналізму. Мы сьмяемся над нацыянальнай кічлівасьцю амэрыканскай, ангельскай і іншай буржуазіі.

МОПР—вораг усякаму нацыяналізму.

Ідэі МОПР—інтэрнацыянальныя.

Загэтым правядзеньне аднае гадзіны ў школах ёсьць неабходная ўмова дзеля разьвіцьця сярод піонэраў і вучнёўскай моладзі ідэй інтэрнацыяналізму, ідэй міжнароднай солідарнасьці.

Выконваньне гэтых заданьняў павінны ўзяць на сябе мясцовыя організацыі МОПР, паставіўшы гэтае пытаньне для разьвязаньня ў адпаведных органах.

**А. Фокін.**

# МОПР на вёсцы.

## ...А пра МОПР забыліся.

*Вёс. Старыца, Грэскі раён, Случчына.*

Старыцкая яч. ЛКСМБ, якая зараз лічыцца амаль што самай мацнейшай і перадавой у сваім раёне, яшчэ й да гэтага часу не організавала ячэйкі МОПР.

Некалькі раз рабіліся даклады аб МОПР, пасьля якіх прымаліся пастановы аб утварэньні ячэйкі, але, на жаль, яны там і заставаліся, дзе іх упісалі.

Пры гэтым трэба сказаць, што ў той час, як у Заходняй Беларусі белы тэрор павялічваецца, як мужык-беларус цярпіць ад катаў розныя панукі і зьдзекі, нам трэба падумаць аб братэрскай дапамозе.

Думаю, што пара і Старыцкай ячэйцы ўтварыць ячэйку МОПР.

Сялянка **Н. К.**

## Організавалі яч. МОПР.

*Дукора, Сьмілавіцкі р., Меншчына.*

У нашай вёсцы да гэтага часу ня было ячэйкі Міжнароднай Організацыі Дапамогі Барацьбітом Рэволюцыі.

Аб яе організацыі падумала комсамольская ячэйка. Спачатку ўступілі ў яе ўсе комсамольцы. Беспартыйных ня было.

Задумаліся комсамольцы і над гэтым пытаньнем і парашылі правесьці агітацыю сярод сялянства. Вынікі ад гэтага бачым добрыя.

Цяпер у ячэйцы не адны комсамольцы, а ёсьць і барадатыя сяляне.

Усіх сяброў у ячэйцы каля 200.

Улетку праца крыху кульгала, але можна думаць, што зімою яна пашырыцца.

**Явар.**

# Як вёска правяла 11-ты МЮД.

## Пад лёзунгамі протэсту.

Працоўная моладзь як СССР, так і БССР сумесна з дэлегацыяй ад моладзі Нямеччыны, Францыі, Бэльгіі, Аўстрыі і др., правяла свой 11-ты МЮД з нябывалым пад'ёмам і запалам.

Комсамольскія ячэйкі на падставе матэрыялу, які быў дадзены ў „Маладым Аратым" і „Чырвонай Зьмене", правялі шырокую кампанію па азнаямленьні шырокіх мас беспартыйнае моладзі з гісторыяй МЮД'у і тым становішчам, у якім зараз мучыцца моладзь Заходняй Беларусі.

Нельга не адзначыць таго факту, што комсамольскі друк значна выхаваў у рэволюцыйным духу беспартыйную сялянскую моладзь, якая ўжо гэты 11-ты МЮД сьвяткавала побач з сваім авангардам—Комсамолам.

Ня было ні аднае вёскі, ні аднаго пасёлку, дзе-б не адзначыўся МЮД.

Днём 6-га верасьня па ўсіх мястэчках і вялікіх вёсках адбыліся мітынгі протэсту проці пагрозы новай вайны і белага тэрору ў Польшчы.

Увечары драмгурткі наладжвалі вечары-спэктаклі, на якія прыходзіла пажылое сялянства і вырашала жыцьцёвыя практычныя пытаньні.

Тысячы рэзолюцый, прынятых у сьвяткаваньні 11-га Міжнароднага Юнацкага Дню, у адзін голас протэстуюць супроць тых нябывалых зьдзекаў, якія чыняць польскія палачы над моладзьдзю Заходняй Беларусі.

Беларуская сялянская моладзь у МЮД—у дзень падліку сваёй моцы і намячэньня шляхоў у далейшай працы—з помстай глядзела на Захад і казала: „Памятуй „бялы ожэл", што шлях ад Менску да Варшавы ў шмат раз карацей, чым ад Варшавы да Менску, і што блізак той час, калі яснавяльможныя польскія паны і каты запоўняць сабою тыя турмы, якія зараз перапоўнены барацьбітамі-рэволюцыянэрамі".

Наогул кажучы, МЮД у 1925 г. прашоў з рэволюцыйнай бадзёрасьцю і, галоўным чынам, пад лёзунгамі протэсту супроць буржуазных зьдзекаў над лепшаю моладзьдзю.

**З. Па—тны.**

## Мы гатовы на дапамогу!

*Капыль, Случчына.*

Яшчэ за некалькі дзён да 11-га МЮД'у наша гар'організацыя ЛКСМБ ужо рыхтавалася да правядзеньня яго. Пятага верасьня ўся капыльская комсамольская організацыя сумесна з партыйнымі, піонэрскімі і профэсыянальнымі організацыямі наладзіла ўрачыстае пасяджэньне. Выступаючыя дакладчыкі ў яскравых рысах высьвятлялі ўзьнікнавеньне МЮД'у, яго мэты і задачы ў сучасны момант і інш.

Пасьля аднае з прамоў сходам была пад гром воплескаў аднагалосна прынята і праз адпаведныя органы паслана заходнім комсамольцам наступная тэлефонаграма:

„У дзень МЮД'у Капыльская організацыя ЛКСМБ пасылае сваё палкае прывітаньне братэрскім комсамольскім організацыям Захаду.

Мы протэстуем супроць нечалавечых распраў над комсамольцамі Польшчы і іншых краін. Браты Захаду! Змагайцеся за справу працоўных, сьмялей глядзіце ў вочы сьмерці—мы з вамі і гатовы на дапамогу.

Няхай жыве Ленінскі Комсамол ува ўсім сьвеце!"

Пасьля дакладаў адбылося ўрачыстае абяцаньне 20-ці піонэраў. Вечар скончыўся выпускам вуснай газэты.

У нядзелю—6 верасьня,—адбылася дэмонстрацыі, а пасьля дэмонстрацыі—спортыўныя выступленьні комсамольскага спортгуртка.

Сьвята прашло організавана і цікава.

**Я. Шкадарэвіч.**

## Сьвяткавалі сумесна з беспартыйнымі.

*Шацкая ячэйка ЛКСМБ, Меншчына.*

У дзень сьвята Міжнароднага Юнацкага Дню шацкімі комсамольцамі быў наладжаны вечар у вёсцы Задаценьне.

У вясковым магазыне сабралася амаль што ні ўся моладзь вёскі. Старых сялян таксама было многа. Вечар пачаўся маленькім дакладам аб МЮД, пасьля чаго драмгуртком быў наладжаны спэктакль з жыцьця моладзі ў царскай Расіі. Сяляне надта былі задаволены і прасілі, каб часьцей да іх наведваліся.

Юнкор **Ч. В.**

## Тры ячэйкі сумесна сьвяткавалі МЮД.

*Семежава, Случчына.*

У Семежаве праводзілі Міжнародны Юнацкі Дзень супольна тры ячэйкі: Семежаўская, Піліпавіцкая і Бучацінская. Настрой комсамольцаў быў вельмі бадзёры. Бурна разносіліся рэволюцыйныя песьні з хаты-чытальні па ўсёй вёсцы. У поўдзень быў наладжаны мітынг. Стройнымі шэрагамі з чырвонымі сьцягамі пашлі па вуліцы комсамольцы, піонэры і вучні, а гэтак сама беспартыйная моладзь. На трыбуне сакратар ячэйкі ЛКСМБ выступіў з дакладам і высьветліў жыцьцё моладзі на Захадзе.

—Сьмерць катам!—гучэлі яго словы.

Пасьля мітынгу адбыўся вечар.

**Шпілеўскі.**

# ВЕРШЫ

## Далёкае мы любім надта.

*Памяці беларускага паўстанца Янкі Глушкі.*

Далёкае мы любім надта,
Чужыншчыне паклоны ў дол...
А хто успомніць нашы хаты
За нізьзю ціхіх, кволых слоў?

Поэты гымны ўсім складаюць,
А беларусам—пушча, гай...
Мая краіна дарагая,
Ты прабачала—выбачай...

Такі наш лёс, такая доля:
Галовы хілім нізка... Ой!
Даволі рабства ўжо, даволі,
Таварыш любы, браце мой!

Хай будзе ў кожнага з нас сілы
Ісьці, змагацца—сьмерць адна.
...Ці пад ярмом, як у магіле,
Ці у магіле без ярма...

Мы загартуем нашы душы
І ў час, калі апошні бой,
Як лунінецкі Янка Глушка,
Заслонім Беларусь сабой.

А ворагу цяпер адкажам,
Як ён, нязнаны наш гэрой,
„Апекі мы ня хочам, вашаць,
Жыць без цябе, ці сьмерць з табой".

І літасьць такжа мы ня хочам
Прыняць з паганых вашых рук.
Страляйце, біце—мае вочы
Над краем бачаць ўжо зару.

**Ул. Дубоўка.**

Акружны пінскі суд на выязной сэсіі ў Лунінцы 20 ліпня г. г. зрабіў сьмяротны прыгавор беларускаму паўстанцу Янку Глушку. Прыгавор выкананы 21 ліпня.

## Захаду.

Ня першы раз
прыносіць весткі тэлеграф...
З іх не адна
трывожна ў сэрцы адзавецца...
і не адна
у сэрцы помстай забурліць:
што недзе там
кроў братняя іх льлецца
ў закованай аковамі зямлі;
што недзе там—
на гулкіх вуліцах Варшавы—
ў вастрожных сьценах,
ой, загінуў не адзін;
што правіць
зьверскую, крывавую расправу
вастрог, бізун, жандарскі карабін.
І многа іх
дарогай слаўнаю пашлі на стрэчу сьмерці...
Багінскі... Вечаркевіч...
Энгель... Глушка...
Відаць,
няволі ня стрымалі буйны сэрцы.
Відаць,
паном не закаваць ў аковы душы.

Вось сёньня зноў—
Хаўтурным маршам словы
ў вушшу трывожнай весткаю зьвіняць:
„расстрэлен
Ботвін—комуніст у Львове,
такога та чысла, гадзіны, дня"...

Няхай!.. Няхай
загінуць сотні сёньня!...
Але паўстаньня хваль
крывёю ня спыніць!..
На зьмену ім
прыдуць другіх мільёны
каб вольнымі сустрэць другія дні!

На зьмену ім
прыдуць другіх мільёны—
на грозны шлях
паўстаньня й барацьбы.
І хваціць
пораху, вінтовак і патронаў,
каб вольным,
хто ў няволі, быць.

**А. Звонак.**

## Гораду.

Ад курчавых і радасных нівак,
Ад вясковых сяліб дарагіх
Я прышоў сёньня ў горад бурлівы,
Хлопец срэбра-сталёвай сахі.
Я прышоў малады і тужлівы,
Грохат вуліц мяне ап'яніў;
Гэты грохат, як мора, бурлівы,
Як палац старадаўні ў агні.

Я прышоў, патануўшы у хвалях
Гарадзкіх рознаколерных дзён...
Мае родныя ніўкі сказалі
Перадаць табе нізкі паклон.
Ну, дык песьняй юнацкага слова
Ад вясковых сяліб дарагіх
Я прынёс прывітаньне дубровы,
Прывітаньне сталёвай сахі!

**Валеры Маракоў.**

# У хвалях жыцьця*).

*Апавяданьне.*

VII.

— Ну, але згадзіцеся, пане маёр, што гэта вар'яцкая дзяўчына, з сваёй бандай робіць вар'яцкія наскокі на нашы абозы... Я ня ведаю...

— Тут і ведаць няма чаго!..—сярдзіта перабіў паручніка маёр.—Вы ня жолнежы польскай арміі, а бабы!.. І горш іх!.. Баба каб вас пабіла?!. Ня дзіва, што нас бальшавікі пацiскаюць?!.

— Пане маёр, калі-ж зусім нечакана наляцелі... Гранатамі закідалі.

— Ну, а як дзеўку тую, сволач бальшавіцкую, вы, пан паручнік, бачылі?..

— Бачыў!.. Прыгожая, маладая зусім, уся абвешана аружжам...

— Ну, во!.. Вы бачылі і не змаглі застрэліць яе?!.

— Калі-ж ня ўсьпеў падумаць, як мне стрэльнулі, дык аж ледзь унёс ногі...

Гэткая гутарка адбывалася ў штабе палка, які распалажыўся на начоўку ў вёсцы, дзе жыла Анелька. Штаб займаў добрую вялікую сялянскую хату з вокнамі, уваходзячымі ў густы, прыгожы сад...

— Трэба напружыць усе сілы і абавязкова ўзяць яе:.. Гэта-ж чорт ведае што будзе?.. Кожны дзень ды на дні па некалькі раз нападае і заўсёды з рук сходзіць...

— Слухаем, пане маёр!...

У штабе варылася, як у гаршку. І хаця з надворнага выгляду, здавалася, усе былі спакойны і толькі заняты кожны сваёю справай, а між тым перад кожным стаяў у ваччу грозны і магутны атрад з дзяўчынай прыгожай на чале, які не даваў супакою паном.

А воддаль вёскі, у гаі, Анеля чакала на ўмоўным месцы Антося—атамана.

Аж чакаць абрыдла. Неяк ня ёмка рабілася адной у лесе, хоць Анелька была і не з баязьлівых...

Ці то галінка здрыганецца ад соннай птушкі, ці зьвярок які прамкнецца, а здаецца чорт ведае што...

На ўсякі выпадак браўнінг выняла, перакідае ў руках, як цацку; а думкі ня ўнімаюцца, мітусяцца, бягуць...

— Ужо тут бальшавікі... Блізка... На гэтым вучастку і Пятрусь.. Ідзе, любы, абараняць нас... Жыць, жыць тады разам...

— Сьсіў!..

Ціха, напружна пракраўся сьвіст, сьцішылася ўсё.

Анелька аж прылягла да зямлі і к кусту роснаму прытулілася.

— Сьсьсіў!!!

Ужо выразьней пачулася, бліжэй.

— Сіў!

Адазвалася Анелька і рванула крокаў пяць у бок.

Сьмела на месца, дзе сьвіснула Анелька, вышла чарада хлапцоў, ціха ляпаючы аружжам.

— Здаецца, тут адазвалася. На гэтым месцы ўмаўляліся...

Пачуўся прыемны голас Антося.

Анеля пазнала гэты голас. Ён знаёмы быў ёй яшчэ з малых гадоў. Антось часта прыходзіў сюды гуляць.

— Анеля?!

— Я!..

— Чаму-ж нешта не адзываешся?..

— Ды трэба мець асьцярожнасьць... Усяк бывае... Могуць і палякі, пранюхаўшы, гэтак сама пазваць... Ня кожнаму вер!..

Хлопцы, чалавек 25, абступілі Анелю і з цікавасьцю разглядалі яе, абыходзілі з усіх бакоў. Ім было цікава, даўно ўжо яны чулі аб яе посьпехах і хацелі хоць раз угледзець гэту казачную дзяўчыну.

А Анелька сярод іх была, як дзіцётка. Перахваченая ў паясьніцы, з рэвольвэрам, які абцягваў папружку, тонкая, зграбная—яна чаравала ўсіх.

— Ну, дык будзем умаўляцца!.. Час не чакае, калі будзем што рабіць, дык будзем!..—кінула Анеля хлопцам.

— Ага!..—ачухаўся Антось,—хлопцы, у кола!..




Усе паселі і сьцішыліся.

— Ну, Анеля, ты, вядома, была ў сваёй вёсцы?!. Колькі тут іх?...

— Дзьве кампаніі, тут і штаб. Раніцай чакаюць больш...

— Вот. Добра!.. Адтуль,—і Антось паказаў на ўсход,—маецца заданьне. У гэту ноч, раніцай, зрабіць тут на іх налёт. Як мага старацца зьнішчыць штаб, паперы, калі можна будзе, ці дазволіць магчымасьць—забраць... Наступ іх затрымаць. Па магчымасьці перашкодзіць перакінуць на гэты вучастак сілы легіянэраў. А на фронце ў гэты час бальшавікі пацiснуць... Трэба зрабіць у паляцкіх шэрагах паніку... разумееш?..

Анеля думала і моўчкі скубла траву пад кустом.

— Заданьне вельмі сакрэтнае і патрабуе хутчэйшага выкананьня, ад гэтага будзе залежыць лёс наступу бальшавікоў. Заданьне падпісаў Пятрусь...

Уздрыгнула Анеля, затрымцела, як-бы вырвацца захацела з рук, трымаючых яе... Вочкі-васількі загарэліся ў полымя, грудзі ходырам захадзілі... І каб было відна, дык кожны ўбачыў-бы, як твар яе паружавеў; але цямнота цярушылася.

— Выканаць! Пятрусь загадаў!..

Мятнулася ў галаве Анелі, і голас яе рашучы прахваляваўся:

*) Працяг. Глядзі „Мал. Араты“ № 11.



— Памерці, але выканаць трэба!.. Сіл хопіць!.. Я першая!..

Згаварыліся аб нападзе якраз. Анеля з сабой узяла толькі двух хлапцоў і сама ўзяла на сябе самую цяжкую задачу: узарваць штаб, перастраляць усіх, галоўнае начальства ўзяць у палон, захапіць паперы вайсковыя...

Гэта патрабавала надзвычайнай адвагі, сьмеласьці і рашучасьці. Яшчэ там, дзе ўжо папярэджаныя налётам і запуджаныя, палякі вельмі берагліся...

— Я выканаю!.. Памру, альбо зраблю!

І ўжо зусім ціха, так, каб ня чулі ўсе, дадала:

— ...Бо Пятрусь загадаў, бальшавік мой любы!..

Аднаго хлопца паслалі ў атрад Анелькі.

Лес усё чуў, але маўчаў, агорнуты дакучлівай дрэмай, а ветрык-буян усё падцікоўваўся, зазіраў у вочы кожнаму і хацяў абяцаў усім апавядаць, але дзе-ж ён перадасьць гэта панам?!..

Бо і ён на іх!..



У карцары польскай турмы, залітым халоднаю вадою.

VIII.

Недалёка ўжо і раніца.

Ад бязглуздай тасканіны сьпяць у польскім штабе. Вартаўнікі, апёршыся на карабіны, гэтак сама „кур пасуць“. Легіянэры тыя, дык добра што месца ёсьць, на падушках у хатах і пунях сялянскіх разьляглiся.

А нехта ня сьпіць.

Нехта,—трое іх,—як каты, крадуцца ў садзе к вокнам штабу. Нават уздых і той затаілі...

— Хлопцы... як толькі я гранату-другую закіну... тады за мной. Не адставаць!.. Чулі?.

— Чулі!..

Ужо і каля вокан. Слухаюць.

Там нешта сонна-злосна гамоняць, перамаўляюцца па тэлефону.

— Няўжо Антось не абарваў дроту?..—мільганула ў Анелі.

— Альлё!... Альлё?!.

— Цо так марне слыхаць?!.

— Альлё!..—гвалтаваў тэлефоністы ля апарата.

Відаць, дрот ужо быў абарваны!..

— Пара!..—пырснула думка ў Анелькі, і розум дрыготна-нэрвовай пялёнкай заслаўся. Ня помніць нічога. Рукі і сэрца закалаціліся.

— Р-р-р-аз!..

— Р-р-р-аа-з!

Адна за аднэй рэзнуліся ў пакой гранаты, і сонную ціш абудзіў страшэнны выбух. Пасыпаліся шыбы ў вокнах.

— За мной!..

І рынуліся ўсе трое праз разьбітыя вокны ў пакой.

Спачатку і разабраць нічога немагчыма было.

Кроў, мяса чырвонае, нешта белае...

Нейкім цудам зацалеўшая пад стольлю лямпа асьвятляла жудасны малюнак.

Стогны, праклёны, войканьні...

Анелька кінулася да сталоў і пачала выбіраць сярод папер больш каштоўныя. Уцалеўшы маёр абмацаў рэвольвэр і навёў яго на Анелю. І хто-б знаў, што было-б, каб не запрыкмеціў апаскі адзін з хлапцоў і не падбегшы схапіў маёра за горла.

— Кідай рэвольвэр, гад!.. Кідай, кажу!—крыкнуў партызан.

— Я юш кінуў!. Юш... юш...

І хроп маёр у дзябёлых руках партызана. Ня ўсьпела Анелька, як сьлед, сабраць усе паперы і карты, а на вуліцы засакатаў кулямёт...

— Хлопцы!.. Вяжы яго!... Кабелем, ды наймацней.

Партызаны пачалі скручваць маёра.

І раптам пасыпаліся стрэлы...

Афіцэрства кінулася к штабу і, уварваўшыся ў яго, пачало абстрэльваць партызан.

Анелька гранату шпургнула.

Ізноў гром.

На гэты раз імпэтам адкінула яе аж к ложку маёра. Яшчэ адзін стрэл, і партызан скаціўся к ёй, храпучы і кідаючыся ў прадсьмяротных сударгах...

Ачухалася трохі.

— Гу-р-р-а!..

— Бі, хлопцы, каршуноў гэтых!..

Пазнала Анелька голас Міколы, лягчэй стала. А часу губляць ня было як. Лежучы на падлозе, навяла браўнінг на маёра.

— Рукі ўгору!..

Маёр, трасучыся, седзячы ў аднэй бялізьне на ложку, падняў дрыжачыя рукі ўгору.

— Вяжы яго!..—крыкнула яна партызану.

Усхапілася, але ў ваччу іскры мітусяцца, млявасьць цела ўсё працінала...

А маёр ужо з зьвязанымі рукамі сядзеў на ложку.

— Вады-б дзе?..—кінула яна маёру.

— Во!..—і паказаў галавой на пляшкі, якія ў розным выглядзе стаялі на другім стале.

Падышла, выпіла. Нейкі лікёр. Адразу адчула, што сіл падбавілася... Падбадзёрылася.

— За мной!.. Але стой!.. Я адна!.. Пільнуй гэту скаціну...

І выскачыла праз напоўжывыя трупы на двор.

Антось, залёгшы з сваімі хлапцамі ў вясковых агародах, за хатамі толькі чакаў сыгналу, каб рынуцца мясіць ненавідную шляхту.

Па канцох вуліц сталі Анельчыны партызаны. Мікола падвёў атрад аж к самому штабу і зноўткі чакаў...

Як толькі выбух гармат абудзіў сонную ціш, Антось і Мікола з сваімі хлапцамі паляцелі на палякаў.

— Бі, браткі, бі!.. У палон ня браць!..

— Сьмерць крывапійцам!..

— За комуну!..

То там, то сям выкрыквалі ў адчайнай злосьці партызаны і хвасталі палякаў. Пробваў аказацца кулямёт, але сам Мікола зьняў яго.

Пачуліся стрэлы па канцох вуліц. Гэта хлопцы лавілі ўцекачоў.

Анелька выскачыла з штабу на вуліцу, у той час, калі партызаны дабівалі рэшту палякаў.

— Мікола!.. Сюды!..—крыкнула яна, саскочыўшы з ганку.

Як плюнуць, яе акружыла грамада хлапцоў.

— Ну, што?.. Як?..

— Дабіваем!..

— Васіль?..

— Я!..

— Ідзі ў штаб, сюды!.. Будзеце там удвох пільнаваць маёра. А дзе яны?..

— Вунь кучкай рэжуцца!..

— За мной!..

І бягом, з карабінкай напрыгатове, урэзалася ў шэрагі белапалякаў. Біла прыкладам карабінкі, бо страляць было немагчыма. Каля яе Мікола.

— Анелька, ты іх гэты!..

І дзіва...

Як толькі грамада палякаў пачула гэтае слова, кінула адбівацца і падняла „рэнцы до гуры"...

— Ня біце!.. Здаёмся!.. Здаёмся!.

— Назад!..—падала каманду сваім Анелька.

Выхапіла гранату і туды...

— За бальшавікоў!.. За Пятруся!..

Чорнай высокай плямай усхвацілася нешта над зямлёй і з гулам асунулася.

Кончана.

Два атрады партызан сабіраліся ўжо каля штабу. Антось падыходзіў з сваімі хлапцамі.

Усе радаваліся, што так лёгка зьнішчылі ўсё...

— Анелька!.. Дай руку!.. Дзякуй табе!

— Дзякуй і табе!..

Два атаманы, лясныя гэроі, сярод натоўпу партызанаў дзякавалі адзін другога за выкананае заданьне.

— А!.. Яшчэ ня ўсё!.. Ёсьць начальства ў штабе!..—уздумала Анелька.—Хлопцы, сабраць карабіны польскія, кулямёты і ўсё аружжа. Паставіць варту!.. Мікола, выканай! Антось і пяць хлопцаў—у штаб!

Замітусіліся партызаны.

Гэтым часам выглянулі аднекуль і сяляне. Радаваліся, як дзеці малыя. Цалавалі хлапцоў. Памаглі аружжа сабраць.

А гэтым часам Анелька рабавала штаб. Маёр аж лопаўся ад злосьці, бачачы, як самыя важныя дакуманты пераходзяць у рукі Анелькі.

— Ды гэта ты, сука бальшавіцкая?..

— Я, бальшавіцкая!..—з сьмехам кінула Анелька.

Выбрала з папер, што трэба было.

Рэшта папернага хламу загадала хлапцам вынесьці на двор.

Кучу наклалі.

— Палі іх!..

Полымем усхліпнула праца панская. Сяляне моўчкі глядзелі на Анелю і самі з сабою толькі шапталіся...

— Во, разанула белых, дык разанула!..

— От, маладзец!..

— Во табе й дзяўчына!...

А Анелька рабіла ўжо суд над маёрам.

— Тут-жа яго расстраляць!.. Каб нідзе не пакідаць за сабой адродзьдзе панскае...

Ужо хлопцы вывелі яго на вуліцу. Сама Анелька страляць нарыхтавалася.

Зразумеў маёр і пакаціўся пад ногі Анелі.

— Дзяўчына!.. Паненка яснавяльможная, ня бі!.. Што хочаш з мяне бяры... у палон бэрыце, але толькі не расстрэльвайце!... Пашкадуйце!..—Агіднанадаедліва галасіў „харобры" ваяка польскі. І зажадалася Анельцы адкінуць нагой ад сябе яго, каб ня скуголіў, сэрца ня нудзіў, не псаваў настрой...

— Устань!.. Страляць ня будзем!.. Ты нам будзеш яшчэ патрэбен!..

Сказала Анеля і адвярнулася к Антосю. Парай слсў з ім перакінулася.

А сялян усё прыбывала.

Пачало брацца на дзень.

## IX

— Во што, маёр...

Зьвярнулася да зьвязанага пана Анелька, седзячы на яго ложку.

— Ты павінен зараз-жа, пакуль ня позна, даць афіцыяльнае паведамленьне ў тыл, што на гэтым вучастку адступленьне вашых часьцей, што цяпер бальшавікі аграмаднай сілай фронт прарвалі...

— Не паверацЬ!.. Якраз на гэтым вучастку нашы галоўныя сілы і тэхніка... !

— Нічога ня значыць!.. Пішы...

Васіль, ведаючы польскую мову, падышоў да маёра, разьвязаў яму рукі і даў паперу з ручкай. Пад контролем Васіля маёр напісаў рапарт.

Маёру ізноў зьвязалі рукі.

Васіль, пераапрануўшыся ў легіянэрскую форму, з пакетам махнуў у тыл.

Распытаўшыся ў маёра аб сілах на фронце, Анелька, падняўшыся, кінула, гуляючы вочкамі.

— Маёр, ты павінен ехаць з намі і паставіць нас на слабейшае месца вашых часьцей...

— О!.. Гэта немагчыма!.. Я ніколі ня здраджу Рэчы Посполітай!..

— Ну, дык да сьцяны яго!..

Ізноў завыў маёр і ўжо абяцаў выконваць усе загады Анелькі.

А хлопцы тымчасам выпаралі аднекуль яшчэ двух афіцэраў ды штук пяць злавілі легіянэраў з данясеньнем з фронту.

Пісалі, што на фронце вось-вось чакаюць наступу бальшавікоў і просяць дапамогі...

— Ну, дык мы вось ідзем!..—узрадаваўся Антось.

— Антось, зьбірай хлапцоў і выбіраймася...

Выстраіліся арлы маладыя, гатовыя ізноў рынуцца ў апошнюю і рашучую бойку.

— Братачкі?!. Дык як-жа вы нас пакідаеце?!.

— Нас усё роўна закатуюць гэтыя палякі!..

— І мы з вамі!..

Узбудзіліся сяляне.

— Бяры, хто хоча і можа, аружжа і з намі!..

Большая палавіна сялян, разабраўшы карабіны, улілася ў партызанскую грамаду.

— Упярод!..

Гэтым часам на фронце засакаталі кулямёты, заірзалі вінтоўкі...

Відаць было, што рашучы момант надыходзіў.

Партызаны сьпяшаліся.

— Маёр, дзе фронт слабей?..

— Вось на гэтым вучастку...—паказаў галавой маёр.

Каго можна было здымаць—партызаны здымалі, абрывалі дрот і неўзаметку прабраліся к акопам.

Расставілі кулямёты, нарыхтаваліся. Ланцугом падышлі, гранаты напрыгатове.

— Раз... Два... Тры!...

Працяла цэп каманда, і гранаты засыпалі акопы паляцкія.

Стрэл па бальшавікох абарваўся. Заціхлі.

Другая порцыя гранат.

— Г-у-р-р-а!..

Уздрыгануў паветра магутны крык сотні галасоў. Партызаны бачылі, як з зямлі з-за купін шэрых падымаліся яны і несьліся на паляцкія акопы...

— Бальшавікі, родныя, любыя!..—з радасным хваляваньнем, падняўшы ад зямлі галаву, шаптала Анелька, і вочкамі шукала сярод іх знаёмую постаць каханага Пятруся—тут недзе ён, любы!..

Палякі... Але якія там палякі?!

Астача адна, паднялася і рынулася назад да партызанаў. Падпусьцілі бліжэй і разанулі іх...

Соты можа ўцалеў...

Але што гэта?..

Чаго чырвонаармейцы ізноў суняліся, лажацца?..

Мы—партызаны, свае.

Ды яны-ж і ведаюць!..

Анелька чырвоны сьцяг выкінула перад сабою.

— Та-та-та-та!!!

Засакатаў ззаду кулямёт паляцкі, абсыпалі дажджом сьвінцовым...

Зьмяшаліся шэрагі чырвонаармейцаў і партызанаў. І вось цяпер толькі, пад агнём, зусім недалёчка, каля пнюшка, Анелька ўбачыла яго...

Здаецца... Апранут добра, наган, карта... На рукаве квадраты...

Павярнуўся бокам, захацеў, мусіць, глянуць на партызанаў.

Поглядамі сышліся...

— Анелечка?!...

— Пятрусёк, любы!..

І замёрла Анеля, рукі з карабінкай задрыжэлі, зброя к зямлі яе прыціснула.

У вачох—муць...

Падпоўз к ёй, абняў, пацалаваў. Сьлёзы ў абоіх пасыпаліся. Хто яго ведае чаго?.. Ці то ад доўгага чаканьня адзін аднаго, суму-нуды па любым, ці то з радасьці нявымоўнай...

Але, пэўна, з апошняга!

— Дык гэта ты, мая Анелька?.. Ты--граза паноў, наш прыяцель і неацанімы памоцнік, гэта ты, Анелечка?!.

— Я, міленькі!.. Я за комуну!..

— Мы чулі пра цябе!.. Я гардзіўся, што мая... што гэта мая Анелька – атаман!..

Ізноў загарэлай дужай рукою абняў Пятрусь Анелю, моцна прыціснуў і цалаваў яе, цалаваў, як калісь...

— Ну, любая, цяпер разам будзем!.. Адзін ад аднаго—не адыходзіцца!..

А палякі, здавалася, упіліся стралянінай і як-бы за „ўмарлых“ сваіх сягоньня паноў помсту гналі. Адбіць жадалі.

— Пятрусёк!.. Я маёра прывяла сюды...

— Дзе ён?..

— Во ляжыць!..

— Прыстаў к яму аднаго свайго партызана і няхай пільнуе, а як часамі адступаць будзем—кулю няхай дасьць яму...

— Пара...

І толькі сабраўся Пятрусь, каб перадаць па шэрагу чырвонаармейцаў у атаку, як Анелька падхапілася з крыкам.

Рынулася ўпярод... За ёю партызаны і Антось...

— За комуну!..

— Сьмерць паном!..

Чырвонаармейцы навыперадкі.

Гэта ня бой быў, а нейкая радасная гульня.

Усе дзівіліся з Анелькі. А Пятрусь любаваўся ззаду ёю, яе постацьцю, хараством жаночым... Нaперад забег.

Рукапашная...

Чырвонаармейцы з партызанамі, азьвярэўшы, калолі і крышылі белых, як капусту. Тыя здаваліся цэлымі пачкамі.

Бачыла Анеля, бо воч з Пятруся ня спускала, як ён схваціўся з польскім паручнікам... Кінулася на дапамогу, але не дасьпела дабегчы, як ёмкім зваротам саблі палажыў паручнік Пятруся...

Іскры ў ваччу Анелькі. На ходу браўнінг з кабуры і... скаціўся паручнік. Падбегшы, яшчэ разы два ў труп халадзеючы выстраліла.

Прыпала к Пятрусю.

Цераз усю галаву, цераз вуха і шчаку раскроіў пан польскі Пятрусю яе любаму...

Вочы зачынены. Рукі пахаладзелі...

Адчула Анелька, што згубіла ў жыцьці самае дарагое, любае, што ўжо замяніць ніхто ня зможа...

І сьлёзы пырснулі.

— Пятрусёк?!. Няўжо-ж цябе ня будзе ўжо ніколі?!. Няўжо ніколы не пацалуеш, не абнімеш свае Анелькі?. Шчасьце маё!..

І зьлілася Анелька целам сваім з Пятрусём. Цалавала яго, хоць у кроў пэцкалася.

Ня гледзячы, што хаця і дабівалі палякаў, але апаска была...

Нешта шаптала яму, песьцячы твар яго скалечаны. Потым устала, бліснула вачыма, выпрамілася...

Падбегла к маёру, адвярнула яго.

— Знаеш?.. пан чортаў?!. За Пятруся!..

Прыставіла ка лбу рэвальвэр. Выстраліла і адвярнулася.

— Памёр Пятрусь—асталася комуна!.. За комуну!..

І, не шкадуючы сябе, лезла ў самыя апасьнейшыя месцы, біла прыкладам карабінкі, страляла, грызла зубамі...

А сонца ўжо паднялося і праменьнем у кроплях крыві дыямэнтамі дарагімі адбілася...

Ды сьцяг чырвоны, сьцяг вызваленьня палошча ў сінь-чырвані...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Анельчына і Пятрусёва вёска сталі жыць новым, комуністычным жыцьцём. **М. Ніканович.**



# ВЯСЁЛАЯ СТАРОНКА.

## Частушкі.

Я на вуліцы была
Ды чула навіну—
Трохпалёўку наша вёска
Кладзе ў дамавіну.

Эх, мае грачанікі,
Мала ўжо ў вас толку:
Куплю трактар невялікі,
Завяду шматполку.

Каціліся вазы з гары,
Пры даліне сталі.
Падпісалась наша вёска,
Каб трактар прыслалі.

Прыпеў...

Мы на полі завядзем
Канюшыны й вікі,
Бо казаў нам агроном—
Дасьць прыплод вялікі.

Прыпеў...

Ой, выйду ў агарод,—
Ажно глянуць міла:
Стаіць жыта, як чарот,
Бо я ў клюб хадзіла.

Прыпеў...

На пасёлкі перайду,
Трохпалёўку кіну,
Бо саветы нам далі
У крэдыт машыну.

Прыпеў...

Эй ты, вёска, схамяніся!
Так жыць—мала толку.
Ад трахполкі адкажыся,
Перайдзі ў шматполку.

Эх, мае грачанікі,
Мала ўжо ў вас толку:
Куплю трактар невялікі,
Перайду ў шматполку.

**Цімошак і Гомза.**

* * *

Эй, гармонь мая, трохрадка,
Галасы твае, як звон.
Не саромейся, Параска,—
Запішыся ў комсамол.

* * *

Ярапланы плылі ўчора
Над вёскай, як гусі.
Цякуць рэчкі крыві й гора
У Заходняй Беларусі.

* * *

Я узяўся за сасонку,
Дык сасонка гнецца.
А у Бельску, Беластоку
Пан пузаты б'ецца.

* * *

Ты ня біся, пан пузаты,
Шмат табе не ваяваць.
За турэмныя за краты
Хутка пойдзеш ты „сьпяваць“.

Юнкор **Пятрок П.**

## Дзявочая песенька.

*На мотыў „Яблычка“.*

Ня хрышчуся, не малюся,
Ня веру у бога.
Прачытала „Аратага“—
Чакаю другога.

* * *

Йдуць кароўкі із дуброўкі,
Авечачкі з поля.
Палюбіла мяне маці,
Што я ў комсамоле.

* * *

Андрэй, ня дурэй,
Не дзяры сарочкі.
Дай мне КІМ'у панасіць
Хоць на тры дзянёчкі.

**Зэшка Бірала.**

---

**Ал. Дудар.**

* * *

Праскакаў над бяздоньнем вякоў
навальніцы чырвоны конь.
Гэта іскры яго падкоў
запалілі стары закон.

Што ні крок—агонь і пажар,
і старому—у сэрца удар.
І закон—на канцы нажа.
І ня страшны ні бог, ні цар.

Чырванее ўжо белы сьнег;
хто прачнуўся—больш не засьне.
І араб, і суданскі нэгр
засьпявалі аб новай вясьне.

Звонка ляснуў і стаў варстат.
Загудзеў рабочы квартал:
— З барыкадаў ні кроку назад;
зьлітаваньня ня дасьць капітал!...

І на вуліцах б'е барабан:
— Барацьба, барацьба, барацьба!
Страшны суд затрубіла труба—
памірае ўсяўладны банк.

І гараць навальніцы агні.
Сьвет стары да астатку згніў,
І вякі з вёрхавін пірамід
паглядаюць на нашы дні.

Праскакаў над бяздоньнем вякоў
навальніцы чырвоны конь.
Гэта іскры яго падкоў
запалілі стары закон.

# Вясковыя насьценныя газэты.

## Насьценная газэта і моладзь Заходняй Беларусі.

Сёньнешні дзень патрабуе, каб кожны малы і стары беларускай вёскі ведаў, як жывуць яго браты ў той частцы Беларусі, дзе на чале ўлады стаіць капітал і царква.

Вясковым комсамольцам трэба паставіць сабе ў заданьне высьвятліць усёй сваёй вёсцы жыцьцё беларуса ў Заходняй Беларусі.

Як гэта прарабіць? А вельмі проста. Праз сваю газэту. Кожная вёска выпісвае некалькі экзэмпляраў беларускіх газэт.

Сродкі на выпіску, бязумоўна, адшукваюць комсамольцы, і комсамольцам прыходзіцца іх абавязкова чытаць.

Гэтага-ж патрабуе комсамольская дысцыпліна.

Прачытаўшы газэту, цэнтральную ці акруговую, і ўявіўшы сабе жыцьцё на „крэсах“ (так Польшча заве Зах. Беларусь), пастарайся напісаць маленькую заметачку ў сваю насьценную газэту. Вядомая рэч, ня трэба пісаць вялікага допісу, бо яго чытаць ня будуць. Лепш за ўсё—гэта даць кароценькая і памастацку напісаўшы.

Да такога допісу, ці цэлага куточку *„Як жыве моладзь у Заходняй Беларусі“*, неабходны—самае каштоўнае ў насьценнай газэце—малюнкі. А намаляваць прыгожы малюнак—рэч цяжкая. У вёсцы мастака знайсьці можна вельмі рэдка. З такога становішча можна выйсьці пры дапамозе выразкі малюнкаў з друкованай газэты ці часопісі.

Такі малюнак ажывіць газэту і хутчэй чытача да сябе прыцягне.

Работа гэта зусім простая і лёгкая. Вынікі ад яе—вялікія. У гэтым я пераканаўся, выпускаючы ў сваёй вёсцы насьценную газэту.

**Сьцянкор Д.**

## Газэта абудзіла моладзь.

*Рудзенск, Сьмілавіцкі р., Меншчына.*

Доўга ў нашым Рудзенску спала рэдакцыйная колегія, якая складалася з 15 асоб. На яе сон глянула комсамольскае вока.

Ячэйка ЛКСМБ выбрала сваю рэдколегію, у якую ўвашло 5 комсамольцаў. Праца закіпела. Вышаў чарговы нумар насьценнай газэты „Комсамолец“, у якім адбілася жыцьцё сельсавету, копэратыву, а гэтак сама і ячэйкі.

Газэта разварушыла ўсю моладзь. Рэдколегія стала атрымоўваць дзесяткамі допісы.

Нават і старыя прыходзяць чытаць комсамольскую газэту, а потым хваляць комсамольцаў.

**Н. З.**

## Вельмі рэдкі „Селянін“.

*Самахвалаўскі р., Меншчына.*

Сеньніцкай ячэйкай ЛКСМБ і КПБ выдаецца насьценная газэта „Селянін“. Газэта гэта добрая і цікавая, але кепска, што вельмі рэдка выдаецца.

Так, у гэтым годзе вышаў толькі адзін нумар.

Пішуць у „Селянін“ большай часткай комсамольцы, а таксама партыйцы, настаўнікі, агроном.

Моладзь зацікаўлена газэтаю. Калі-б яшчэ яна выходзіла ў м-ц 2 разы—усё-б добра было.

**Янка Бор.**

## Наша насьценная газэта.

*Старыцкая яч. ЛКСМБ, Случчына.*

За апошнія два месяцы мы выпусьцілі 2 чарговых нумары свае насьценнае газэты „Вясковы Комсамолец“.

Рэдакцыйная колегія гэтай газэты складаецца з 7-мі асоб: 4 комсамольцы, настаўнік і 2 селяніны.

Газэта адбівае ўсё жыцьцё і працу ячэйкі, зьвяртаецца вялікая ўвага паляпшэньню сельскай гаспадаркі, землябудаўнічым справам і г. д.

Старыя сяляне любяць „Вясковы Комсамолец“ і шмат з іх хто прымае гарачы ўдзел у выхадзе чарговага нумару.

**К. Кучынскі.**

## У нас—шмат горш.

*Верхмен, Смалявіцкі р., Меншчына.*

Наша Верхменская ячэйка ЛКСМБ разам з вучэбным пунктам дапрызыўнай падрыхтоўкі яшчэ ў красавіку месяцы організавала і выпусьціла першы нумар насьценнай газэты „Наперад“.

Газэта вышла вялікім разьмерам, з вялікім лікам малюнкаў.

І сяляне і моладзь радаваліся гэтаю газэтаю і чакалі наступнага нумару. Але на рэдакцыю газэты напаў нейкі сон, і газэта супыніла свой выхад.

Праўда, была абвестка: *Да першага мая выйдзе № 2 „Наперад“*, але прашло і першага жніўня, а газэты так і няма.

**Казімірчык.**




Стальны конь—танка—перавозіць вялізарны вінакурны кацёл.

# Па Комсамольскай Беларусі.

## 6-цігадовы юбілей нашай ячэйкі.

*Дукора, Сьмілавіцкі р., Меншчына.*

Па пастанове бюро комсамольской ячэйкі было намечана правесьці 6-цігадовы юбілей Дукорскай ячэйкі ў дзень 13 верасьня. (У верасьні 1919 г. яч. організавался). Комсамольцы сталі старанна рыхтавацца да свайго сьвята і з нецярпеньнем чакалі 13 верасьня.

У дзень юбілею прыехалі з Менску шэф і старыя комсамольцы Дукорскай яч., якія зараз працуюць у розных вучэбных установах.

Пачало вечарэць. Каля клюбу кішэў цэлы натаўп моладзі і сялян Дукоры і суседніх вёсак.

У клюбе запалілілі агні, і прышоўшыя адзін праз аднаго рынуліся ў адчыненыя дзьверы клюбу. Цесната вялікая, хоць сьцены расточвай, але, дзякуючы вясёламу настрою і комсамольскім сьпевам, яе ніхто не адчуваў...

На сцэне зьявіўся сакратар комсамольскай яч. т. Шпак. Усе змоўклі. Пад бурныя вопleскі сябры, намечаныя раней бюро яч. ў прэзыдыум, занялі свае месцы.

Пачалася ўрачыстая частка. Амаль што ўсе організацыі Дукорскага сельсавету віталі ячэйку з яе шасьцігадовым існаваньнем. Прадстаўнік ад шэфу над Дукорской яч. ў сваім прывітаньні прыпаднёс ячэйцы Ленінскую бібліотэчку з словамі:

— Комсамолец, памятуй заветы Леніна і выконвай іх!

Тав. Сянчук (старэйшы наш комсамолец, зараз студэнт рабтэхнікуму) усебакова абмаляваў гісторыю Дукорскай ячэйкі: час яе організаваньня, чым гэта было выклікана, жыцьцё і праца комсамольцаў у часы белапольскай окупацыі і інш.

Як-бы рэзолюцыяй на прамову т. Сянчука была перадача двух лепшых комсамольцаў у партыю і прыём двух сялянскіх хлапцоў у комсамол.

Пасьля т. Крэпскі (актывісты, партыец) запісваў сваіх двое дзяцей у піонэр'атрад.

Спэктаклем і сьпевам беларускай марсэльезы закончыўся вечар нашага юбілею.

**Ц. А—кі.**

## Коцімся з гары ўніз.

*Ячэйка саўх. Лазоўскага, Меншчына.*

Ячэйка організавалася ў 1922 годзе. Да гэтага часу яна ўцягнула ў свае шэрагі 32 чалавекі. Сябры—рабочыя саўхозу і сялянская моладзь. Ячэйка сабрала моладзь з 6-ці паселішч. Работа распачалася. Гурткі, якія існавалі пры ячэйцы, вялі свае заняткі. Праца ў гуртках рабіла ўплыў на беспартыйных, вынікам чаго ў ячэйку сталі ўцягвацца новыя сілы. Шкада адно, што над толькі што ўступіўшымі комсамольцамі не вялася ніякая праца. Адсутнічала выхаваўчая праца сярод іх як колектыўная, так і індывідуальная. Некаторыя з іх пасьля гэтага адкалоліся ад ячэйкі. Праца ў ячэйцы зусім аслабла. Прычына гэтаму—адсутнасьць дысцыпліны. Сакратар і бюро вялі слабую барацьбу з гэтым. Некаторыя комсамольцы сталі выходзіць з організацыйных рамак, ня маючы на гэта прычын: не наведвалі агульных сходаў, нядзельнікаў, ня выконвалі тых абавязкаў, якія на іх ускладвала ячэйка.

Новы быт адсутнічаў. Ніхто з беспартыйных столькі ня скача на вечарынках, як комсамольцы. Не адстаюць і па высушцы самагону. Зрываюць кампаніі замест таго, каб быць прыкладнымі ў кожнай рабоце. Абвакольваючае насельніцтва бачыла зусім адваротнае ў комсамольцах, гаворачы: „Вы комсамольцы толькі на паперы, а на справе нічога ня варты“.

Партыйная ячэйка супольна з бюро ячэйкі ЛКСМБ, абгаварыўшы гэту справу, ухваліла зрабіць „чыстку“ комсамольскае ячэйкі ад непатрэбных элемэнтаў.

13 верасьня адбыўся сход які падтрымаў пастанову партыйнай ячэйкі і бюро ячэйкі ЛКСМБ, на якім і выкінулі 2 інтэлігэнтаў і 1 рабочага, а таксама выкасавалі з сьпісу сяброў ячэйкі і тых, якія выбылі мэханічна.

Узьдзенскаму райкомолу трэба зьвярнуць на гэту ячэйку вялікую ўвагу і часьцей даваць патрэбнае кіраўніцтва.

**Дубовік.**

## У працы не адстаем.

*Бацэвіцкая ячэйка ЛКСМБ, Клічаўскі р., Бабруйшчына.*

З пераходам на пэрыод летняй працы, прызнацца, актыўнасьць ячэйкі крыху паменшала, але можна думаць, што ў хуткім часе яна пойдзе хуткім тэмпам уверх.

Сяброў у нашай ячэйцы 30. З гэтага ліку 10 комсамолак. У нас існуюць наступныя гурткі: газэтны, драматычны і політычны. Драмгурток часта наладжвае спэктаклі ў блізкіх сабе вёсках. Выпускаем сваю насьценную газэту „Малады Селянін“, якою надта цікавіцца вясковая моладзь.

Наогул, у працы не адстаем, а шпаркімі крокамі ідзем уперад.

**Я. Шляхціц.**

# Вясковая моладзь—пра сваю часопісь.

### „М. Ар.“—наша родная часопісь.

*Заўшычы, Чырвона-Слабодзкі р., Случчына.*

„Малады Араты“ з кожным днём усё большае і пачэснае месца займае на вёсцы.

Аднаго разу Андрэеў Зьмітрок з пошты прынёс „М. Ар.“ Вакол яго сабралося шмат моладзі і сялян. Комсамолец Зьмітрок пачаў чытаць. Усе ўважна слухалі. Праз пару гадзін часопісь была прачытана...

Чуткі аб добрым „М. Ар.“ разьбегліся па ўсёй вёсцы. Хлопцы і дзяўчаты сталі зьбіраць грошы не на „семячкі“, а на „Араты“.

Больш перадавая моладзь парашыла паслаць у рэдакцыю наступны ліст:

> Мы, моладзь в. Заўшычы, прачытаўшы „М. Ар.“, кажам, усё добра ў часопісі, як і яе знадворны выгляд. Портрэт правадыра на вокладцы—гэта нішто іншае, як дадатак да часопісі
>
> Часопісь вельмі цікавая і прыманная. На наш погляд—трэба пашырыць літаратурны аддзел. Трэба даваць больш песень і частушак. Потым, просім рэдакцыю не наклейваць адрасу на першай старонцы вокладкі, а на апошняй, бо ў першым выпадку псуецца портрэт. Мы з свайго боку рэдакцыі абяцаем пісаць, выпісваць і распаўсюджваць „М. Ар.“—нашу родную часопісь.
>
> З шчырым прывітаньнем моладзь вёскі **Заўшычы.**

Як бачым, сялянская моладзь цікавіцца „М. Ар.“ і зьвяртае ўвагу на яго недахопы. Рэдакцыі трэба прыслухоўвацца да слоў сялянскай моладзі аб выпускаемай часопісі.

Комсамольцы, моладзь! Чытайце і распаўсюджвайце „М. Ар.“, як лепшага будаўніка новай вёскі.

**М. Лубок.**

**Ад рэдакцыі.** За апошні час рэдакцыя стала дзесяткамі атрымоўваць ад юнкораў лісты аб „М. Ар“ Усе яны падобны на тыя, якія мы сёньня друкуем. У многіх з іх маецца шмат жыцьцёвага і каштоўнага, што рэдакцыя пастараецца выканаць.

### Як мы выкарыстоўваем „Мал. Араты“.

*М-ка Магільна, Меншчына.*

Як толькі „Мал. Араты“ пачаў выходзіць замест газэткі журналам, погляды нашай моладзі перамяніліся

Часта пачуеш: „Во, гэта наш журнал, што хочаш у ім ёсьць“.

А варта зьмясьціць п'еску, як яе зараз-жа пачнуць разглядаць і прыстасоўваць да яе сваю сцэну.

У жніўні мы паставілі п'еску з „Аратага“ „Уцёк з турмы“, якая прашла з посьпехам.

Вечар быў платны. Усю выручку ад пастаноўкі пераслалі ў райком МОПР.

Песьні вывучаем і пяём замест старых, якія „пахнуць“ смуткам.

**С.—р.**

### Буду распаўсюджваць комсамольскую часопісь.

*В. Гарадзень, Пухавіцкі р.*

Да жніўня м-ца г. г. ў нашай вёсцы ня было комсамольскай часопісі „Малады Араты“.

Аднаго разу быў я ў Блускай хаце-чытальні і „сьпёр“ там адзін нумар гэтай часопісі. Дома прачытаў сам і другім даў пачытаць.

Пасьля першым падпісаўся на яго на верасень м-ц. І цяпер стану найлепшым распаўсюджвацелем адзінай комсамольскай часопісі „Малады Араты“. Думаю, што моладзь нашай вёскі дапаможа мне ў гэтым.

**Алесь Сьцежка.**

# Перапіска з нашымі супрацоўнікамі.

Допісы бяз подпісу пад імі свайго прозьвішча, імя і правільнага адрасу ні ў якім разе ня могуць быць надрукаваны. Аб гэтым забыліся аўтары наступных корэспондэнцый: *„Ячэйка акрэпла“* (Койданаўскі р.), *„Паказаў прыклад“* (В. Тукалаўка) і *„Гэта не комсамолец, што дзевак цукеркамі корміць“* (Калініншчына).

**Пупкевіч Ап. і Пупкевіч С.**—Ваша заява пераслана ў партыйную газэту „Звезда“, праз якую вы атрымаеце здавальняючы адказ.

**Гіро Станіслаў** (Аршаншчына) — Допіс „Калі лепш“ зьмесьцім у адным з чарговых нумароў „Малады Араты“.

**Янка Шляхціц**—Супрацоўнікам „Маладога Арат.“ залічылі. Корэспондэнцыя твая аб сьвяткаваньні пяцігодзьдзя Бацэвіцкай ячэйкі больш-менш добрая, але за недахопам месца надрукована ня будзе. Пішы нам аб тым, як вы рыхтуецеся да зімовай палітвучобы, аб выніках працы за лета, як дзяўчаты ўцягваюцца ў комсамол і інш. На запытаньне (аб пасылцы лістоў бяз марак) скажам наступнае: калі ты пасылаеш нам ліст бяз маркі, то за яго трэба плаціць удвайне, гэта першае. Падругое—рэдакцыя грошы мае не заўсёды на выплату даплатных лістоў і матэрыял гатоў спазьніцца.

**М. Лубок** (Чырвона-Слабадзкі р.)—Аб працы вашага коопэратыву напішы ў Слуцкую акруговую газэту „Вясковы Будаўнік“.

**Кашэлю Ф. Я.**—Твой допіс „Жыцьцё нашых намесьнікаў“ перасланы ў рэдакцыю дзіцячай часопісі „Беларускі Піонэр“.

**А. М.** (Капыль)—Лепш напішы аб тым, што карысная даў падзел ячэйкі. Заметка „З аднае—дзьве“ ня пойдзе.

**Казлоўскі В.** (Шацк)—Калі ў вашай вёсцы ёсьць сяброў 4-6 камсамолу, якія будуць магчы кіраваць працай ячэйкі, тады прасіце дазволу ў Райкоме аб адчыненьні ячэйкі ў вашай вёсцы. Допіс ня пойдзе.

**Ціханаву** (Калінінск)—Твой допіс атрыманы. У хуткім часе надрукуем. Пішы больш.

**Заслаўскаму** (Аст.-Гарадок)—Твой допіс аб падзеле ячэйкі зьмешчаны быць ня можа за недахопам месца ў часопісі.

**Чыкун А.** (Смалявічы), **Мацкевіч Т.** (Аксакоўшчына), **Залуцкі Н.** (Рудзенск)—вам рэдакцыя выпісала за кошт ганорару часопісь „М. Ар.“ на верасень-лістапад м-ц. і **Казлоўскі В.** (Шацк), **Фефарако Яз.** (Рудзенск), **Лабаты М.** (Лускава), **Адашчык** (Койданава)—на верасень-кастрычнік м-ц.

Рэдактары: { **А. Самахвалаў.**
**Іл. Барашка.**

1-я дзярж. друк, Зак. № 4411—(1300). Галоўлітбел № 12857.

# Навіны навукі і тэхнікі.

### Вялізарны вісячы мост.

Каля Нью-Йорку, па рэчцы Гудзоне, канчаецца пабудова вісячага мосту, які будзе адным з найвялізарных у сьвеце па даўжыні пралёту.

Мост трымаецца на двух быкох, адлегласьць між якімі раўняецца 500 мэтрам. Уздоўж мосту прадугледжана дарога для язды (ушыркі $11^{1}/_{2}$ мэтраў) з двума тратуарамі па паўтара мэтры кожна.

Увесь мост вісіць на сталёвых канатах, таўшчыня якіх амаль што палова мэтра. Кожны канат складаецца з сплеценага паміж сабою сталёвага дроту таўшчынёю ў пяць мілімэтраў кожны. Адзін канат мае ў сабе 7.250 такіх драцінак. Быкі маста—107 мэтраў увышкі.

Пабудова гэтага мосту пачалася два гады таму назад і будзе закончана ў бягучым годзе.

### Новая лямпа для асьвятленьня марскіх глыбінь.

Новы выгляд вадалазнай вопраткі і новая лямпа для асьвятленьня марскіх глыбінь, якую нядаўна вынашаў капітан Левіт, даюць магчымасьць даставаць патануўшыя караблі з такой глыбіні, дзе раней была немагчыма аніякая работа.

Справа ў тым, што на вялікіх глыбінях ціск вады такі вялікі, што каб туды апусьціўся чалавек у звычайнай вопратцы, яго-б расплюшчыла ў блін. Тое самае было-б і з лямпаю.

Цяпер, дзякуючы вынаходцы капітана Левіта, гэтыя цяжкасьці адхілены.

Звычайна вадалазы могуць працаваць ад 30 да 40 футаў пад вадою. Зараз-жа, дзякуючы новаму выкрыцьцю, яны могуць працаваць на глыбіні 50 сажань і заставацца там на працягу некалькіх гадзін.

Лямпа, якая асьвятляе пры гэтай рабоце падводную цямноту, вытрымоўвае ціск у 10 раз большы звычайнага ціску паветра і робіць асьвятленьне амаль што роўнае дзённаму. Яна зроблена з вельмі тоўстага шкла, прычым другі канец яе ўмацованы ў бронзавым каўпачку. Да гэтага каўпачка і прымацоўваюцца элекрычныя правады, якія нясуць ток у лямпачку.

Вадалазная вопратка зроблена з бронзы. На сьпіне вадалаза маецца каморка з тлёнам (кісларод), якая дае яму магчымасьць вольна дыхаць на працягу чатырох гадзін. Глядзіць вадалаз праз тоўстыя шклы. Мае пры сабе тэлефон для зносін з караблём, які знаходзіцца па паверхні мора.

### Аднарэйкавы цягнік.

Уявіце сабе вагон, які коціцца па аднэй рэйцы. Бязумоўна, ён зараз-жа перакуліцца. Але зьмясьціце ў вагоне масыўны (цяжкі па вазе) ваўчок і прымусьце яго круціцца з хуткасьцю ў некалькі сотак, а нават і тысяч абваротаў у сэкунду—і ўбачыце, як вагон, як лепш ня трэба, пакоціцца па сваёй адной рэйцы, нават і варочацца ня будзе. Чаму так?

А таму, што як толькі вагон нахіліцца ў бок, ён пачне нахіляць туды-ж сама і свой ваўчок, які стараецца захаваць сваё ранейшае становішча, а, значыць, не паслухаецца нахілу вагону, а наадварот—выпраміць яго.

Вось у агульных рысах сутнасьць аднарэйкавай жалезнай дарогі.

Першая думка прыстасаваць ваўчок да транспарту зьявілася ў 1902 годзе, калі англічанін Брэннан пабудаваў свой першы аднарэйкавы вагон. Амаль што ў той-жа самы час падобныя вопыты былі распачаты і ў Нямеччыне немцам Шэрль, і яго вагончык прыгожа лётаў па заолёгічнам садзе ў Бэрліне.

Аднарэйкавая дарога дае магчымасьць пры той-жа сіле машыны дабіцца хуткасьці 200 вёрст у гадзіну. На той-жа аднарэйкавай дарозе можна падняцца на ўзгоркі ў два разы большыя за тыя, на якія ўзыходзіць наш сучасны цягнік.

### Міжплянэтная прастора і радыё.

Вельмі цікавым зьяўляецца проэкт (думка аб тым, чаго нельга паказаць люду) амэрыканскага інжынэра Маддэна, які прапануе пасланць у міжплянэтную прастору „вочы“, якія дадуць застаўшымся на зямлі магчымасьць бачыць тое, што адчыняецца перад імі ў час іх палёту.

Гэтым інжынэрам распрацаваны проэкт ядра, якое зможа зрабіць міжплянэтнае вандраваньне; у сярэдзіне ядра ўстаноўлены радыё-тэлескопічны перадатчык.

Радыётэлескопія—спосаб бачаньня на вялікай прасторы пры дапамозе радыё.

Ядро рухаецца па прынцыпе ракеты. У ім маецца лента з патронамі і мэханізм, які пасылае патрон у дула. Пры выбуху патрону ядро атрымоўвае таўчок. Такое ядро будзе перадаваць на зямлю пры дапамозе радыё выгляд зямлі з міжплянэтнае прасторы.

Па пераконаньню Маддэна, яго проэкт тэхнічна магчымы для выкананьня. Гэты проэкт цікавы, як адна з магчымасьцяй ужываньня радыётэлескопіі.

Радыётэлескопія ў злучэньні з тэлемэханікай дасьць нам магчымасьць бачыць тое, што робіцца ў месцах, няпрыступных чалавеку.

---

### Да нашых падпісчыкаў.

Гэты № „Маладога Аратага“ па тэхнічных умовах вышаў з друку з некаторым спазьненьнем.

Чарговыя нумары (13 і 14) будуць ахвяраваны правядзеньню сьвята Кастрычнікавай Рэволюцыі. Зьвяртаемся да чытачоў з просьбаю аб дасылцы допісаў на тэму „Вёска раней і цяпер“, частушак, песень, вершаў і інш.

**Рэдакцыя.**

### Папраўка.

Па недагляду корэктара ў мінулым (11 №) „М.А.“ на ст. 5 пад фотографіяй надрукована: „*Дэлегаткі Старо*“. Трэба чытаць: „*Далегаткі Старобінскага раёну*“.

„— ПАДПІСВАЙЦЕСЯ —"



= і =

ЧЫТАЙЦЕ

двухтыднёвую часопісь

сялянскай моладзі

# „МАЛАДЫ АРАТЫ"

**ОРГАН**

**Цэнтральнага Комітэту Ленінскага Комуністычнага Саюзу Моладзі Беларусі.**



**Умовы падпіскі—з дасылкаю да хаты:**

на 1 месяц 15 кап.
на 3 месяцы 45 кап.
на 6 месяцаў 90 кап.



**Падпіска прымаецца**

у Менску Контрагентствам друку (Савецкая 63) і ў провінцыі—усімі аддзяленьнямі Бел. Дзярж. Выдавецтва, агентамі і упоўнаважанымі, а таксама ўсімі паштова-тэлеграфнымі аддзяленьнямі.



**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—на сваіх старонках праводзіць гутаркі аб **політыцы.** Высьвятляе ўсе цікавячыя сялянскую моладзь пытаньні.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—праводзіць агрономічныя гутаркі, высьвятляе асобныя лепшыя гаспадаркі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—дае парады сялянскай моладзі, у **каго вывучыцца,** зьмяшчаючы жыцьцёпісы правадыроў БССР і СССР.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—вядзе барацьбу за **новую вёску,** змагаецца з усімі дрэннымі бакамі жыцьця вёскі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—друкуе творчасьць сялянскай моладзі: апавяданьні, вершы, прыпеўкі, жарты. Таксама друкуе комсамольскія п'есы і песьні.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—для сялянскае моладзі будзе высьвятляць жыцьцё і працу моладзі гораду.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—друкуе артыкулы па пытаньнях Комсамолу, Комуністычнай Партыі, зьвязаных з працаю вёскі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—таксама высьвятляе жыцьцё вёскі, друкуючы корэспондэнцыі, лісты вясковай моладзі і г. д.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—высьвятляе жыцьцё сялян і рабочых Заходняй Беларусі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—таксама друкуе матэрыялы для забаў: загадкі, гульні і г. д.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—дае параду моладзі, што чытаць, водзывы аб кніжках як бібліотэкі „Чырвоная Зьмена", так і інш.

